# Голас Радзімы

№ 42 (2184)
18 кастрычніка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Набліжаўся вечар, і на чарговую рэпетыцыю сабралася сям'я Івана ТУМАШЭВІЧА з вёскі Струкі Докшыцкага раёна. Паляцелі ў наваколле цудоўныя народныя мелодыі, якія можна слухаць бясконца. Самадзейныя артысты ездзілі са сваімі канцэртамі ў райцэнтр і нават у Віцебск. Усюды гэтую сям'ю прымаюць цёпла, доўга і шчыра апладзіруюць ёй.

З асаблівай адказнасцю ўдзельнікі сямейнага ансамбля рыхтуюцца да выступленняў перад сваімі аднавяскоўцамі з калгаса «Чырвоны сцяг».

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

ДЗЕЛАВЫЯ СУСТРЭЧЫ

## КАНТАКТЫ Ў НЬЮ-ЙОРКУ

**Міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка, які знаходзіцца ў Нью-Йорку ў сувязі з удзелам у рабоце 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, правёў рад сустрэч з прадстаўнікамі дзелавых колаў ЗША.**

**У ходзе гутаркі з прадстаўнікамі буйнейшай нафтавай кампаніі «Тэксака» абмяркоўваліся пытанні атрымання альтэрнатыўных крыніц энергіі з адходаў хімічнай прамысловасці і сельскагаспадарчай прадукцыі («сінтэтычны газ»), а таксама перспектыў стварэння гэтай кампаніяй сеткі комплексных аўтазаправачных станцый. У гутарцы з прадстаўнікамі кампаній «Фэдэрэйтэд элайд мерчэндайзінг сервіс» размова ішла аб перспектывах паставак тавараў шырокага спажывання беларускай вытворчасці ва універмагі, якія належаць гэтай кампаніі.**

ВІЗІТЫ

## ГОСЦЬ З ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

**У рэспубліцы знаходзіўся член кабінета міністраў Вялікабрытаніі, міністр па справах Шатландыі Малькольм Рыфкінд. Ён быў прыняты першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевічам, які расказаў аб радыкальных пераменах, што адбываюцца ў Савецкім Саюзе і ў Беларусі як суверэннай рэспубліцы.**

**У Савеце Міністраў БССР адбылася сустрэча М. Рыфкінда з намеснікам Старшыні Савета Міністраў, старшынёй Дзяржаўнага камітэта БССР па эканоміцы і планаванню М. Мясніковічам. Адбылася канструктыўная, зацікаўленая размова аб шляхах развіцця ўзаемавыгадных партнёрскіх сувязей паміж беларускімі і англійскімі фірмамі, аб магчымасцях прыцягнення да больш шырокага супрацоўніцтва дзелавых людзей нашай рэспублікі і Шатландыі ў розных галінах эканомікі, навукі, аховы здароўя, абароны навакольнага асяроддзя. Беларусь гатова не толькі да заключэння гандлёвых здзелак, але і з цікавасцю разгледзіць любую прапанову аб стварэнні сумесных прадпрыемстваў, аб размяшчэнні на яе тэрыторыі новых вытворчасцей з прыцягненнем замежнага капіталу, з удзячнасцю прыме дапамогу ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, у падрыхтоўцы кадраў для работы ва ўмовах рына[чных] адносін, сказаў М. Мясніковіч.**

**У адказ М. Рыфкінд заявіў, што Беларусь выклікае несумненны інтарэс у прадпрымальнікаў з яго краіны, і чым больш энергічна рэспубліка будзе прасоўвацца да рыначнай эканомікі, тым большая колькасць фірм Вялікабрытаніі падключыцца да гэтага дабратворнага працэсу.**

**Міністр пабываў на Мінскім станкабуд[аўні]чым заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, калектыў якога даўно і плённа супрацоўнічае з англійскімі фірмамі, азнаёміўся з арганізацыяй вытворчасці на Мінскім трактарным заводзе.**

НА ПРАМЫСЛОВУЮ АСНОВУ

## АДШУКАЛІ АЗЁРНЫ КЛАД

**Прамысловую здабычу сапрапелю пачаў калгас-камбінат «Прагрэс» Гродзенскага раёна ў размешчаным непадалёку ад гаспадаркі возеры Ант. Запасы адкладаў у ім складаюць некалькі мільёнаў кубічных метраў.**

**Тэхналогію нарыхтоўкі распрацавалі вучоныя Інстытута торфу АН БССР. Замест земснарадаў, што прымяняліся раней для гэтай мэты, цяпер выкарыстоўваецца змантіраваная на спецыяльнай дразе электраўстаноўка, што адпампоўвае глей у абсталяваныя на беразе ўмяшчальныя чэкі. З дапамогай адной такой установкі можна атрымаць за сезон 60—70 тысяч тон каштоўных угнаенняў пэўнай вільготнасці, якія асабліва эфектыўныя на пясчаных глебах. Калгас забяспечыць імі не толькі свае патрэбы, але і суседніх гаспадарак.**

**Па ацэнках спецыялістаў Акадэміі навук, запасы азёрнага глею ў вадаёмах Гродзеншчыны дасягаюць 180 мільёнаў кубічных метраў. А таму для іх здабычы мэтазгодна стварыць буйное міжгаспадарчае прадпрыемства, затраты на якое акупяцца з лішкам. Справа ў тым, што запасы тарфакрошкі амаль усюды вычарпаны, ды і адлегласці да іх няблізкія. У дадатак вадаёмы стануць больш паўнаводнымі і чыстымі, што дазволіць стварыць тут зоны адпачынку, разводзіць рыбу. Дарэчы, малькі каштоўных парод у возера Ант намечана запусціць ужо ў будучым годзе.**

*«Становішча надзвычай цяжкае. Людзі не разумеюць, чаму такая магутная дзяржава дапусціла рост злачыннасці. Яны пытаюцца: гэта агульны параліч улады ці толькі праваахоўных органаў?*

*У мінулым годзе Вярхоўны Савет СССР і ўсе органы кіравання аб'явілі вайну злачыннасці. Аднак мне здаецца, што гэта злачынны свет аб'явіў нам вайну. Ва ўсякім разе, прайграем мы, а не злачынцы.*

*Сёлета колькасць злачынстваў павялічылася на 12 працэнтаў, а цяжкіх нават на 19 працэнтаў у параўнанні з 1989 годам, калі ўжо быў рост на 33 працэнты.*

*Злачынны свет сёння дзейнічае дзёрзка і наступальна. Калі не будуць прыняты сур'ёзныя, вельмі жорсткія прававыя і праваахоўныя меры, то адбудзецца далейшае ўскладненне крымінагеннай абстаноўкі ў краіне.*

*Цяпер кожны трэці рубель у фінансавым абарачэнні краіны мае «ценевае» паходжанне.*

*У гэтых умовах пераход да рынку не палепшыць становішча, а толькі пагоршыць яго».*

*(М. РЫЖКОЎ, Старшыня Савета Міністраў СССР).*

ПАДРЫХТОЎКА СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

## КАЛЕДЖ У МАГІЛЁВЕ

**Першы ў Беларусі тэхналагічны каледж адкрыты ў Магілёве. Заснавальнікамі яго сталі ўпраўленне народнай адукацыі аблвыканкома, машынабудаўнічы і тэхналагічны інстытуты, а спонсарамі — вытворчыя аб'яднанні «Хімвалакно» і шаўковых тканін. Новая навучальная ўстанова разгорнута на базе міжшкольнага вучэбна-вытворчага камбіната Кастрычніцкага раёна.**

**— На першы курс мы прынялі шэсцьдзесят навучэнцаў дзевятых класаў, якія прайшлі конкурсную гутарку і тэстыраванне, — сказаў дырэктар каледжа Генадзь Бурчанка. — Дзесяць з іх залічаны кандыдатамі. Калі яны паспяхова будуць займацца і здадуць экзамены за дзевяты клас, то таксама прадоўжаць вучобу. З прынятых навучэнцаў сфарміраваны тры класы — два з фізіка-матэматычным ухілам і адзін з хіміка-тэхналагічным. Першы год усе будуць займацца ў асноўным па агульнаадукацыйнай праграме. У наступныя два гады, калі навучэнцы зробяць выбар сваёй будучай прафесіі, — па спецыяльнай праграме. Мы будзем рыхтаваць надзейны рэзерв абітурыентаў для тэхналагічных ВНУ. Выпускныя экзамены ў каледжы сумяшчаюцца з уступнымі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.**

**Прадпрыемствы-спонсары ўзяліся забяспечыць каледж вучэбна-тэхнічным абсталяваннем і сродкамі, гарантуюць рабочыя месцы для маладых спецыялістаў.**

**У будучыні дзверы каледжа будуць адкрыты для навучэнцаў усіх школ вобласці.**

**Створаны і папячыцельскі савет каледжа.**

СЕРВІС

**На Мінскім аўтазаводзе ўпершыню ў галіне наладжаны серыйны выпуск прычэпаў-дач да легкавых аўтамабіляў. З канвеера ўжо сышла першая партыя навінак, выробленых па тэхналогіі югаслаўскай фірмы «Адрыя». Домікі на колах вызначаюцца прыгожым інтэр'ерам і камфортам. У кожным ёсць халадзільнік, газавая пліта, печка, душ, умывальнік. Словам, усё, што трэба для паўнацэннага адпачынку тых, хто падарожнічае на аўтамабілі.**



**НА ЗДЫМКУ:** вось такія дачы на колах пачалі сыходзіць з канвеера Мінскага аўтазавода.

ПРАГРАМА «ЖЫЛЛЁ-2000»

# ПЛАНЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

**ЗАБЕСПЯЧЭННЕ САВЕЦКІХ ЛЮДЗЕЙ СУЧАСНЫМ ДОБРАЎПАРАДКАВАНЫМ ЖЫЛЛЁМ — ПРАБЛЕМА, ЯКАЯ З «ПРОСТА САЦЫЯЛЬНАЙ» ДАЎНО ПЕРАТВАРЫЛАСЯ Ў ПАЛІТЫЧНУЮ. АД ЯЕ КАНКРЭТНАГА ВЫРАШЭННЯ Ў НЕМАЛОЙ СТУПЕНІ ЗАЛЕЖЫЦЬ САМААДЧУВАННЕ НАСЕЛЬНІЦТВА, СТАБІЛІЗАЦЫЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ АБСТАНОЎКІ Ў КРАІНЕ.**

**У БЕЛАРУСІ ДВА ГАДЫ НАЗАД ПРЫНЯТА КОМПЛЕКСНАЯ МЭТАВАЯ ПРАГРАМА ПАЛЯПШЭННЯ ЖЫЛЛЁВЫХ УМОЎ НАСЕЛЬНІЦТВА РЭСПУБЛІКІ НА ДВАНАЦЦАТУЮ ПЯЦІГОДКУ І НА ПЕРЫЯД ДА 2000 ГОДА. НАКОЛЬКІ РЭАЛЬНА ЯЕ ВЫКАНАННЕ Ў СЁННЯШНІХ УМОВАХ? НА ГЭТАЕ ПЫТАННЕ АДКАЗВАЕ СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖБУДА БССР Ю. ПУПЛІКАЎ.**

— Сённяшнія рэаліі такія. У першыя два гады пяцігодкі тэмпы жыллёвага будаўніцтва ўзрасталі. Але ў 1988—1989 гадах увод дамоў у эксплуатацыю знізіўся. Асабліва летась, калі зніжэнне супраць праграмы склала 900 тысяч квадратных метраў, або 28,6 тысячы кватэр. Усяго ж за чатыры гады пабудавана 376,4 тысячы кватэр, або 93 працэнты да плана.

Прычыны зрыву? Перш за ўсё — рэзкае пагаршэнне забеспячэння цэментам, трубамі, лінолеумам, санітарна-тэхнічным абсталяваннем. Пераход на так званы аптовы гандаль аказаўся непрадуманым і непадрыхтаваным. У многім таму толькі часткова былі ўведзены ў строй новыя магутнасці па вытворчасці сценавых матэрыялаў, буйнапанельных вырабаў. «Дапамог» і пераход на прамыя сувязі паміж прадпрыемствамі, да чаго практычна ніхто не быў гатовы.

Прамыя сувязі... Сёння многія гавораць аб суверэнітэце рэспублік, іх эканамічнай самастойнасці, але якія перакосы ў разуменні сутнасці гэтых паняццяў! Думаю, нідзе ў свеце дзелавы чалавек, бізнесмен не стане проста так, за здорава жывеш, ірваць наладжаныя сувязі, закрэсліваць для сябе выгадны рынак збыту прадукцыі. А пры нашай дзелавой культуры ўсё магчыма. І вось ужо заводы Расіі ставяць беларускім прадпрыемствам умовы, у якіх галоўнае — скарачэнне паставак матэрыялаў. Без усякіх важкіх тлумачэнняў, заўважце. Яшчэ горш, што такія ж настроі пануюць і ў больш высокіх сферах суседняй рэспублікі. Як растлумачыць усё гэта, скажам, мінскаму ці магілёўскаму рабочаму, які чакае кватэру 10—15 гадоў?

Наспела неабходнасць — разабрацца ў кадравай праблеме. Хто канкрэтна будзе ўзводзіць дамы — вось пытанне. Хочам атрымаць гатовыя кватэры, аднак аб тым не думаем, што прэстыжнасць прафесіі будаўніка даўно ўжо знаходзіцца ніжэй нулявой адзнакі, пры цяжкіх умовах працы ён — адзін з самых нізкааплатных у краіне. Ці трэба здзіўляцца масавай «міграцыі» спецыялістаў з дзяржаўных будоўляў у сферу рамонту і сервісу?

У Беларусі выканаўцаў жыллёвай праграмы ў цэйтнот завяло своеасаблівае развіццё перабудовачных працэсаў і новыя патрабаванні. Мяркуйце самі: дзве мінулыя пяцігодкі будаўнічая база ў нас развівалася ўвогуле някепска, але ж яна была разлічана на рост аб'ёмаў будаўніча-мантажных работ у памеры 15 працэнтаў. Развіццё ж падзей паставіла перад фактам: ужо к 1988 году аб'ёмы работ павялічыліся фактычна на 26 працэнтаў, не лічачы таго, што пашырылася будаўніцтва гаспадарчым спосабам, індывідуальнага жылля.

Каб ліквідаваць гэтыя «нажніцы», сёння рэалізуем комплексную праграму развіцця будаўнічай базы да 1995 года. У параўнанні з 1986 годам яна забяспечыць прырост магутнасцей па вырабу, напрыклад, дробнаштучных сценавых матэрыялаў на 60 працэнтаў, «сталяркі» — на 83, цэменту — у 1,9 раза. Улічваецца і пераход рэспублікі да эканамічнай самастойнасці: у жыллёвую праграму ўносяцца карэктывы па стварэнню новых вытворчых плошчаў па вырабу ўсіх тых матэрыялаў, якія стала цяжка «прабіваць» па саюзных фондах.

Нядрэнна, на маю думку, ідзе забеспячэнне жылой плошчай інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама сем'яў загінуўшых ваеннаслужачых. Па стану на 1 студзеня 1988 года ў рэспубліцы было 3 711 сем'яў інвалідаў і ўдзельнікаў вайны, якія мелі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. У 1988 і 1989 гадах 2 480 сем'яў пераехалі ў новыя кватэры. Такім чынам, можна чакаць, што да канца сёлетняга года гэта частка праграмы будзе выканана.

Перасяляюцца ў новае жыллё і сем'і са старых дамоў. Два гады назад было ліквідавана 161 503 квадратныя метры агульнай плошчы старога жылога фонду, летась — яшчэ 99 263.

Рэалізацыя жыллёвай праграмы ў Беларусі значна ўскладняецца неабходнасцю перасялення жыхароў шэрагу населеных пунктаў з-за вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Вярхоўнаму Савету БССР варта было б разгледзець пытанне аб спыненні ў рэспубліцы дзеяння льгот на атрыманне і будаўніцтва жылля грамадзянамі, якія прыязджаюць з іншых рэгіёнаў краіны, а таксама ваеннаслужачымі, звольненымі ў запас, якія пайшлі ў адстаўку і былі прызваны ў свой час у армію не з Беларусі.

Такія і іншыя меры дапамаглі б нам больш рэальна глядзець на выкананне праграмы «Жыллё-2000» у Беларусі.

## ЕСТЬ ЛИ УГРОЗА ЯДЕРНОЙ БЕЗОПАСНОСТИ?

# НЕ ДОПУСТИТЬ ТРАГИЧЕСКИХ НЕЛЕПОСТЕЙ

Еще недавно казалось, что все возможные источники ядерной угрозы в мире хорошо известны: это либо международный конфликт с применением ядерного оружия (или, по крайней мере, его случайное использование), либо катастрофа типа Чернобыля.

Но в самое последнее время возникли очертания угрозы нового типа в связи с нынешней внутриполитической нестабильностью в такой буквально напичканной и ядерным оружием, и ядерными реакторами стране, как Советский Союз.

Вполне можно представить себе несколько вариантов сценария, ведущего к угрожающему — в плане ядерной безопасности — развитию событий. Попробую перечислить некоторые из них. Сейчас в СССР весьма значительные размеры приняли попытки захвата оружия различными нелегальными военизированными организациями. Особенно распространено это в Закавказье, но случается и в других регионах страны. Сравнительно недавно, например, в Армении было захвачено несколько танков. Стоило немалого труда вернуть их. Нельзя забывать в этой связи о том, что в советских сухопутных войсках есть ракетные батальоны и что те или иные виды ядерного оружия находятся на территории многих союзных республик. Представим себе, что какая-то его разновидность оказалась в руках охваченных ожесточением боевиков!

Разумеется, в большинстве случаев это оружие не так-то просто привести в действие. Но, во-первых, во всех межнациональных конфликтах весьма активную роль, к великому сожалению, играют бывшие военнослужащие, часть из которых имела в прошлом доступ к ядерному оружию, а также интеллигенция, в том числе и техническая. А это значит — могут найтись квалифицированные специалисты, способные довольно быстро разобраться, что к чему.

Излишне объяснять, к чему может привести даже сама попытка использования ядерного оружия для шантажа.

Кроме того, нарастание нестабильности, усиление национальной ожесточенности могут привести к тому, что руки террористов-фанатиков протянутся не только к ядерному оружию, но и реакторам АЭС. Ведь значительная часть этих реакторов находится в тех частях страны, где особенно обострены межнациональные отношения. Любая попытка такого рода также могла бы иметь трагические последствия.

Однако все перечисленные варианты развития событий носят в той или иной мере «локальный» характер. Самым же опасным явилось бы, на мой взгляд, обострение ситуации не только «по горизонтали», то есть на национальной почве, но и «по вертикали», то есть уже и на социальной основе. Масштабы внутреннего конфликта такого рода могли бы оказаться настолько значительными, что все, что происходит сейчас, выглядело бы почти как детская забава. В него могли бы оказаться вовлеченными и Вооруженные Силы, а значит, и все то оружие, которым они располагают.

Внутренняя стабильность едва ли не каждой страны во многом зависит от позиции Вооруженных Сил. Здесь нам есть о чем подумать, причем применительно к теме ядерной безопасности — в несколько неожиданном ракурсе. В СССР быстро развивается политический плюрализм. Появляются новые партии, да и в самой КПСС довольно четко прослеживаются несколько весьма сильно отличающихся друг от друга течений. В этой связи быстрая деполитизация Вооруженных Сил важна не только как одно из условий полного претворения в жизнь сути измененной статьи 6 в нашей Конституции, но и как способ предотвратить раскол Вооруженных Сил по политическим мотивам. Совершенно ясно, что такой раскол в лучшем случае привел бы к резкому падению дисциплины и порядка, а в худшем, да еще на фоне существующих очагов напряженности, мог бы в значительной мере обеспечить практическую реализацию одного-двух перечисленных здесь вариантов появления ядерной угрозы.

К счастью, пока что все эти варианты носят в большей или меньшей степени гипотетический характер. Однако проблема слишком серьезна, чтобы не видеть того, что при определенном стечении [illegible]ятельств ситуация може[illegible]ти из-под контроля. Поэтому столь важны энергичные и разумные действия всех, кто имеет к этому отношение. Во-первых, это мы, в СССР. Внутренняя нестабильность весьма разрушительна [illegible]а по себе, даже без всяких [illegible]ных атрибутов. Значит, надо находить такие решения существующих проблем, которые вернут в страну мир и покой и позволят ей ускорить процесс интеграции в сообщество высокоразвитых демократических стран. Они же в свою очередь имеют все основания помогать нам словом и делом — что, к чести их, и происходит сейчас, — помогать, понимая, какой огромный груз разнообразных и часто непривычных для Запада проблем лежит на наших плечах. Для них почти в такой же степени, как и для нас, важно сохранить внутреннюю стабильность в огромном Советском Союзе.

Драматические коллизии, возникающие в ходе перестройки, и особенно появление в той или иной республике фанатично озлобленных группировок, способных на терроризм любого рода, приводит к тревожной мысли о возможности террористических актов относительно ядерного оружия.

Известно, однако, что ядерные объекты являются наиболее защищенными. Создана система и инженерно-технических сооружений, и огневых средств противодействия их захвату. Ее надежность позволяет обеспечить безопасное хранение и транспортировку в критических условиях.

Одновременно есть уверенность, что взрывная сила политической нестабильности будет угасать по мере становления правового демократического государства и улучшения социально-экономической ситуации в СССР.

Я думаю, что мы будем достаточно разумными для того, чтобы не допустить трагических нелепостей.

**Сергей БЛАГОВОЛИН,**
**доктор экономических наук.**

*ПРОБЛЕМЫ И СУЖДЕНИЯ*

# НАРКОТИЧЕСКИЙ СПРУТ В СССР

ПОКА СССР не захватила столь мощная волна наркомании, как Запад, и имеются все возможности к ней подготовиться — такую оценку сделал секретарь-директор всемирной организации «Наркомон» Боссе Перссон, посетивший Советский Союз в нынешнем году. И все-таки и здесь она находит все новые и новые жертвы.

В СССР имеются огромные сырьевые возможности для производства наркотиков. А раз есть источники зелья, то всегда находятся и люди, греющие на нем руки, несмотря на все опасности такого бизнеса.

Борьбу с наркоманией уже длительное время ведут Министерство внутренних дел, и Комитет государственной безопасности, и Министерство здравоохранения, и Министерство медицинской промышленности. И все же, несмотря на принимаемые меры, как считают социологи и правоохранительные органы, в СССР сформировалась и действует наркомафия со строгой организацией, разветвленной структурой. По самым скромным подсчетам, ее доходы составляют 2 миллиарда рублей, но считается, что они могут быть и в два раза больше.

Наркотический спрут расползается все дальше, и правоохранительные органы, прежде всего в лице МВД и КГБ, видят свою задачу в том, чтобы поставить преграды на его пути. Здесь прежде всего встает проблема выявления источников зелья, принимая при этом во внимание, что в СССР 80 процентов наркотиков, находящихся в обращении, — растительного происхождения.

Ликвидация посевов, многочисленные аресты наркодельцов постепенно меняют ситуацию в сфере наркобизнеса. Об этом красноречиво свидетельствуют цены на «черном рынке». Всего несколько лет назад суточная доза наркоманов стоила в пределах 10 рублей. В [illegible]нешнем году она оценивается от 50 до [illegible] рублей. Чтобы купить наркотики, больному человеку часто приходится идти на преступление — украсть, силой отнять материальные ценности. Выходит, проблема усугубляется.

Операции по выявлению и уничтожению подпольных плантаций наркотического сырья МВД СССР проводит ежегодно с 1986 г[illegible] В нынешнем году в ней принимают учас[illegible] около 10 тысяч сотрудников милиции, 17 тысяч представителей общественности, задействовано 12 армейских и гражданских вертолетов.

По предложению органов внутренних дел республик Средней Азии при Главном управлении уголовного розыска МВД СССР создан межрегиональный отдел по борьбе в сфере наркобизнеса. Необходимость такой организационной меры диктовалась практикой деятельности наркосиндикатов, которая охватывает не только республики этого региона, но и всю страну.

Борьбе с наркобизнесом активно помогают органы КГБ. В начале нынешнего года они провели операцию по ликвидации разветвленной сети дельцов, руководители которой обосновались в узбекском городе Термезе, а сама сеть действовала по всей стране.

Таков внутренний аспект проблемы наркомании в СССР. Ее внешний аспект в нынешних условиях не менее опасен. Пока 20 процентов наркотиков нелегально ввозится в страну из-за рубежа. Причем трудно представить, что советские таможенные или другие службы смогут оградить страну от притока наркотиков извне в условиях переориентации экономики на мировой рынок.

Сейчас, видимо, еще не время раскрывать планы, которые СССР намерен реализовать совместно с другими странами, чтобы решительно воспрепятствовать наркобизнесу расширить сферу своей деятельности на советской территории. Между тем можно с уверенностью сказать, что этой задаче служит вступление СССР в Интерпол. Соответствующие договоренности о сотрудничестве в области борьбы с наркобизнесом были достигнуты также в ходе обмена визитами министров внутренних дел СССР и Кипра Вадима Бакатина и Христодулоса Вениамина, что важно с точки зрения положения, которое занимает эта страна на международных транзитных путях. Идет дело и к тому, что свои усилия в области борьбы с наркоманией объединят СССР и США.

Важно определить, откуда готовится наступление международной наркомафии. Тем более, что в стране планируется сокращение пограничных зон, расширяются прямые контакты с азиатскими странами. Именно с этого направления уже предприняты попытки создать контрабандный канал наркотиков. В качестве противомеры КГБ Таджикистана, например, налаживает обмен соответствующей информацией с пограничными службами Афганистана. Еще раньше по инициативе советских таможенных и правоохранительных органов в сотрудничестве с соответствующими службами Канады и Великобритании удалось перекрыть один из транзитных путей поступления наркотиков из Пакистана и Афганистана через СССР.

Но вернемся к самой проблеме наркомании в СССР. Прежде всего это молодежная и социальная проблема. 70 процентов больных наркоманией — люди в возрасте с 16 до 29 лет, из них 30 процентов — в возрасте до 24 лет. Почти половина больных, постоянно употребляющих наркотики, умирают, не дожив до тридцати.

Своевременной мерой, призванной решить проблему, явилось создание в нынешнем году Всесоюзного общества спасения детей и подростков от наркотиков. Эта независимая организация была создана Фондом социальных изобретений СССР при Международной ассоциации XXI века.

Обществу предстоит открывать анонимные консультации, налаживать работу «телефонов доверия» для попавших в стрессовую ситуацию, организовывать реабилитационные центры для больных и реабилитационные коммуны для тех, кто сам отказался от наркотиков, оздоровительные лагеря для детей из групп риска. Оно также намерено наладить производство печатных, аудио-и видиоматериалов антинаркотической направленности, проводить научные исследования. Важным аспектом его деятельности будет подготовка специалистов для работы с детьми и подростками. Программу для их обучения преподнесли в дар обществу коллеги из США, представляющие благотворительный фонд «Дети — существа особые».

Специалисты считают, что с помощью одной лишь милиции и медицины недуг, который начинает охватывать страну, не победить. Здесь не обойтись без широкой поддержки общественности, без ее активных действий. Необходима и научно обоснованная, хорошо финансируемая общегосударственная программа.

**Дмитрий БЕЛЬСКИЙ.**



**Площадь Ленина в Минске.** **Фото В. ШУБЫ.**

*КУПАЛАЎЦЫ — УДЗЕЛЬНІКІ МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ*

# «ЭМІГРАНТЫ» Ў КРАКАВЕ

Нядаўна ў Польшчы, у старадаўнім Кракаве, адбыўся не зусім звычайны міжнародны тэатральны фестываль. Яго арганізатары запрасілі для ўдзелу ў фестывальных праглядах лепшыя спектаклі з розных краін свету, пастаўленыя па творах вядомага сучаснага польскага драматурга, празаіка і публіцыста Славаміра Мрожака. Пасля папярэдняга прагляду аўтарытэтнай камісіяй на чале з Генеральным дырэктарам Мрожак-фестывалю (так ён афіцыйна называўся) панам Ежафам Апальскім, вядомым польскім тэатральным крытыкам і педагогам, запрашэнне ўдзельнічаць у фестывалі атрымаў спетакль «Эмігранты» Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, пастаўлены нашым маладым рэжысёрам Мікалаем Пінігіным.

І вось мы ў старадаўнім Кракаве, горадзе, з якім звязаны асобныя старонкі духоўных і культурных здабыткаў многіх народаў... З хваляваннем крочым па брукаванцы ўнутранага дворыка Collegium mains Ягелонскага універсітэта, дзе атрымаў вучоную ступень бакалаўра філасофіі Францыск Скарына, уваходзім пад велічныя гатычныя зводы Collegium Novum, дзе вучылася Цётка... Хваляванні ўзмацніліся, калі даведаліся, што на Мрожак-фестываль запрошаны тэатры, тэатральныя студыі, крытыкі і дзеячы сцэны, драматургі і журналісты з дваццаці чатырох краін свету. Фестываль праходзіў пад патранажам міністра культуры і мастацтваў Рэспублікі Польшчы пані Ізабелы Цывіньскай, ганаровы госць фестывалю — сам Славамір Мрожак, які спецыяльна прыехаў у Кракаў з Мексікі, дзе ён цяпер жыве і якому ў гэтыя дні споўнілася шэсцьдзесят гадоў.

Хто ён — пісьменнік і драматург Славамір Мрожак? Чаму яго творы выклікаюць, асабліва ў апошнія два дзесяцігоддзі, такую цікавасць чытачоў і гледачоў у самых розных краінах свету з рознымі традыцыямі і грамадскім ладам? Чаму ўрэшце ён так папулярны ў Польшчы, якую пакінуў яшчэ ў 1963 годзе і куды пасля трагічнага для Ўсходняй Еўропы жніўня 1968 года вырашыў ніколі не вяртацца? На ўсе гэтыя пытанні, што ўзнікалі ў Кракаве ў час шматлікіх сустрэч, прэс-канферэнцый, абмеркаванняў, спрабавалі даць адказ сваім мастацтвам, сваёй творчасцю дзеячы сцэны, кінематографа, тэлебачання. Госці і ўдзельнікі Мрожак-фестывалю, жыхары Кракава мелі магчымасць убачыць спектаклі, пастаўленыя ў Варшаве, Парыжы, Рыме, Будапешце, Ленінградзе, Маскве, Ульянаўску, Цюрыху, Гётынгене. Кіеве, Лодзі, Гданьску, Вроцлаве, Мілуокі (ЗША) і ў іншых гарадах, і, вядома, у самім Кракаве (Стары тэатр паказаў два спектаклі — «Бойня» і «Партрэт», Тэатр людовы — «Паліцыю» па С. Мрожаку).

Пятнаццаць дзён працягвалася шматмоўнае кінатэатральнае свята-марафон. Гэта быў унікальны прыклад таго, як мова сапраўднага мастацтва можа стаць універсальнай, аб'яднаць людзей самых розных густаў і поглядаў, да таго ж разнамоўных. Дапазна доўжыліся спрэчкі пасля праглядаў. Паступова ўсе сыходзіліся на думцы, што ў творах С. Мрожака, нягледзячы на складанасць і арыгінальнасць формы, выразна адчуваецца моцнае імкненне аўтара засяродзіць увагу на раскрыцці душы і псіхалогіі звычайнага чалавека ў неверагодным па стрэсавых сітуацыях дваццатым стагоддзі. Пісьменнік вельмі часта паказвае, як звычайная простая жыццёвая сітуацыя пад уздзеяннем пэўных абставін становіцца абсурднай, парадаксальнай, — менавіта гэта прываблівае рэжысёраў, акцёраў, гледачоў.

У беларускіх «Эмігрантаў» былі даволі сур'ёзныя канкурэнты. Спектаклі па гэтай драме С. Мрожака перад намі паказалі на фестывалі ў Кракаве масквічы — так званая «5-я студыя МХАТа» (выканаўцы Раман Козак і Аляксандр Феклістаў), а таксама «Тэатр дэ Гю» з Парыжа, дзе спектакль наставіў польскі рэжысёр-эмігрант Казімеж Скорупскі. Тым не менш пасля першага паказу спектакля тэатра імя Янкі Купалы (ён паказваўся тры разы ў Кракаве і адзін раз у Хожуве) крытыкі, госці фестывалю, журналісты адразу ж загаварылі пра арыгінальнае рэжысёрскае і сцэнаграфічнае рашэнне беларускіх «Эмігрантаў» (рэжысёр М. Пінігін, мастак У. Жданаў), пра дасканалую ігру артыстаў Аляксандра Дзянісава і Георгія Маляўскага. Спецыяльная фестывальная газета «Встэтшны пастэнповец» («Кансерватыўны прыхільнік прагрэсу» — назва-жарт у духу С. Мрожака) змясціла ў дзень нашай прэм'еры інтэрв'ю з М. Пінігіным, на наступны дзень — інтэрв'ю з перакладчыкам п'есы на беларускую мову Міхасём Дубянецкім і рэцэнзію Яна Плешчаховіча «Свет — гэта клетка», дзе давалася высокая ацэнка купалаўскаму спектаклю. «Цікавы спектакль, празрысты, чысты, графічны, — піша аўтар рэцэнзіі. — Яго вобразнае рашэнне нагадвае клетку, але клетку зусім не шэкспіраўскага часу». Ян Плешчаховіч адзначае «ўзважаную, стрыманую, спакойную і вельмі канкрэтную» ігру Г. Маляўскага і А. Дзянісава, акцёраў, як ён кажа, «салідНай рэалістычнай школы». У спектаклі «Эмігранты» 5-й студыі рэцэнзент бачыць стылістыку, блізкую да Дастаеўскага і Гогаля, а ў беларускім спектаклі — да Шэкспіра і Кафкі. Адразу ж надрукавала станоўчую рэцэнзію на наш спектакль і «Газэта Кракоўска», аўтар — вядомы польскі журналіст Альгерд Енджэйчык, як высветлілася потым на прэс-канферэнцыі, — ураджэнец Слоніма. Неўзабаве многія польскія выданні адгукнуліся на спектакль М. Пінігіна, нават каталіцкі «Тыгоднік повшэхны» (артыкул «Сведчыць тэатр» Браніслава Мамоня, нумар ад 15 ліпеня г. г.). На заключнай прэс-канферэнцыі прадстаўнік аргкамітэта зазначыў, што «Эмігранты» тэатра імя Я. Купалы з Мінска разам з «Партрэтам» кракаўскага «Старога тэатра», пастаўленым рэжысёрам Ежы Яроцкім, — адны з лепшых спектакляў Мрожак-фестывалю.

Прыйшоў, вядома, да нас за кулісы пасля спектакля і сам аўтар. Узрушаны калядНай песенькай, якая гучыць у фінале спектакля (музычнае афармленне А. Рэнанскага), звычайна нешматслоўны С. Мрожак сказаў шчырыя словы падзякі і зазначыў, што яго здзівіла, як акцёры здолелі перадаць рысы беларускага нацыянальнага характару ў створаных ім персанажах п'есы.

Сустрэліся мы ў Кракаве і з сапраўдным эмігрантам. Пачуўшы беларускую мову ў холе гасцініцы «Краковія», дзе мы жылі, падышоў да нас чалавек, які назваўся Паўлем Хендэрсанам. Ён загаварыў па-беларуску, і неўзабаве высветлілася, што ён ніякі не Хендэрсан, а Павел Вайцяховіч, што ён яшчэ да вайны быў вымушаны пакінуць роднае Глыбокае (дагэтуль помніць вуліцу, на якой жыў, суседзяў), што бязлітасны лёс доўга кідаў яго па свеце, а вось цяпер ён жыве ў Кіркобіне ў Паўночнай Ірландыі, а ў Польшчу прыехаў проста турыстам... Самае вялікае яго жаданне і мара — прыехаць у Беларусь і зірнуць на родныя мясціны... Мы ў адказ выказалі ўпэўненасць, што цяпер — іншы час і мара яго абавязкова здзейсніцца, зусім не як у Х. Х. — героя драмы С. Мрожака і нашага спектакля.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ:** сцэна са спектакля «Эмігранты».



# *ВЕЧНАЯ РЭСТАЎРАЦЫЯ?*

У Залессе Смаргонскага раёна я ехаў з намерам расказаць, як ідзе рэстаўрацыя сядзібы вядомага польскага кампазітара М. Агіньскага. Цікавасць да гэтай тэмы была не выпадковая. Не раз за апошнія дзесяць гадоў прыязджаў я сюды і бачыў, як прыходзіць у заняпад сядзіба і парк вакол яе. З дома паступова зніклі вокны, дзверы, потым прыйшла чарга кафляных печаў. Пamiралі дрэвы ў парку, зарастала сажалка, ржавелі ў траве дэталі разабранага на цэглу вадзянога млына, на былой англійскай палянцы вырошчвалася капуста. На гэтым фоне мелодыя паланеза «Развітанне з Радзімай» страчвала сваю ўзвышанасць — заставаўся толькі смутак.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што тое-сёе змянілася тут за апошнія год-два. Перабудаваны струхлелыя часткі будынка, намеціліся контуры адраджэння аранжарэі, зноў падняліся сцены вадзянога млына, аднаўляецца капліца. Але... Тое самае «але», якое, разрастаючыся да гіпербалічных памераў, часта зводзіць на нішто нашы мінімальныя поспехі. ...Доўга блукаў я вакол будоўлі ў пошуках жывой душы. Нікога. Стук малатка вывеў да старога барака побач з сядзібай. Рабочыя-рэстаўратары латалі свой інтэрнат.

Тут, на прызбе, беспаспяхова спрабаваў некуды дазваніцца майстар аб'екта Іосіф Лазар. Высвятляю, што будоўля стаіць ужо каторы дзень з-за адсутнасці піламатэрыялаў і спецыялістаў-тынкоўшчыкаў.

Колькасць рабочых на аб'екце з шаснаццаці скарацілася да шасці. А набраць новых цяжка. Нават вартаўніка няма на будоўлі — прыходзь і бяры, што трэба. І бяруць. Нядаўна некаму спатрэбілася транспарцёрная стужка. І стаіць сіратліва «раздзеты» механізм. Узнікла аварыйная сітуацыя з цэнтральнай часткай ансамбля. Уздоўж партала прайшла трэшчына, і каланада гатова рухнуць. Тры месяцы дарэмна чакаюць рабочыя рэкамендацый праекціроўшчыкаў аб'яднання «Белрэстаўрацыя».

Які раз даводзіцца гаварыць аб абыякавасці, раўнадушшы, аб нізкай культуры. Чытаю інфармацыйны шчыт на аб'екце рэстаўрацыі, і становіцца сорамна за кіраўнікоў Гродзенскіх міжабласных навукова-рэстаўрацыйных майстэрань. Аказваецца, ідзе рэстаўрацыя не былой сядзібы М. Агіньскага, а «...сядзібы імя (!) «Агіньскага»! Узнікаюць сумненні: ці ведаюць яны ўвогуле, што рэстаўрыруюць і хто такі Агінскі?

І апошняе — аб тэрмінах рэстаўрацыі. Яна разлічана на дзевяць(!) гадоў. У жылых дамах праз 9—10 гадоў робяць сур'ёзны рамонт. Міжволі ўзнікае пытанне, ці не давядзецца і тут, не паспеўшы закончыць рэстаўрацыю, пачаць рамонтныя работы? Ва ўсякім выпадку ёсць апаска, што сядзіба М. Агіньскага можа ператварыцца ў вечна рэстаўрыруемы аб'ект.

**Я. КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКУ:** вось яна, сядзіба М. Агіньскага ў Залессі.

**Фота аўтара.**



*МАСТАК І ЧАС*

# АРХІПЕЛАГ ЛЁСУ

Ужо амаль тры дзесяцігоддзі, то зрываючыся на крык, то пераходзячы на «самвыдавецкі» шэпт, гучыць у рускай літаратуры голас Аляксандра Салжаніцына. Ашаламіўшы розумы мільёнаў суайчыннікаў лагерным лёсам зняволенага ШЧ-854, гэта значыць «Адным днём Івана Дзянісавіча», што з'явіўся ў адзінаццатай кніжцы «Нового мира» за 1962 год, ён ужо не адпускаў ад сябе чытача ніколі, нават у тыя доўгія гады, калі пісьменнік вымушаны быў маўчаць. Зрэшты, Салжаніцын не маўчаў ніколі. А тады публікацыя толькі першай яго аповесці дала права А. Твардоўскаму, «віноўніку» з'яўлення на свет «Івана Дзянісавіча», сказаць: «Ні адна новая літаратурная з'ява ўжо не можа разглядацца без супастаўлення з гэтым мастаком».

Сёння ж, калі амаль усе буйныя творы Салжаніцына ўбачылі свет на Радзіме («Архіпелаг ГУЛаг», «У крузе першым», «Ракавы корпус» і першыя вузлы «Чырвонага кола»), калі выдавецтва «Советский писатель» рыхтуе сямітомны збор яго твораў, калі цяжка знайсці часопіс, які б не планаваў штонебудзь з Салжаніцына, эпітэты ў яго адрас дасягнулі ўсіх найвышэйшых ступеняў.

Аднак гэта зусім не значыць, што не засталося процілеглых меркаванняў. Праўда, непадобных на тыя, што гучалі з незабыўнага 67-га, калі пачалося арганізаванае планамернае ганенне на мастака.

Лексіка тых гадоў не адрознівалася разнастайнасцю. Салжаніцыну папросту прыклейваліся ярлыкі «ачарніцеля рэчаіснасці», «зацятага антысаветчыка», «чалавекаценавісніка» і да т. п. А гнеўныя «пісьмы працоўных» у цэнтральныя органы друку вызначаліся падазронай аднастайнасцю. Пачыналіся яны звычайна так: «Я не чытаў, але лічу...» І далей — здраднік, паклёпнік, вораг... Літаратары, вядома, былі больш арыгінальнымі. Паэт А. Суркоў, напрыклад, гаварыў, што «творы Салжаніцына для нас больш небяспеч-

*СПАДЧЫНА*

# АРШАНСКАЯ КАРЧМА

Звычаі і побыт нашых продкаў былі звязаны са шматлікімі грамадскімі мерапрыемствамі. Скупчыны, брацiны, бясeды ладзіліся падчас сезонных свят, магічных абрадаў, вяселляў, святкаванняў пасля заканчэння нейкай працы. На бяседах абмяркоўваліся праблемы грамадскага жыцця, прымаліся адказныя рашэнні, а то і правіўся суд. I была для гэтага ў весі асобная пабудова, якая звалася карчмой. Слоўнікі і энцыклапедычныя даведнікі сцвярджаюць, што карчма была вядома са старажытнасці ўсім славянскім народам. Аналагічны тып грамадскага клуба існаваў у старажытных грэкаў і рымлян, кельтаў (таверна). Па паданню, старажытныя галы частавалі ў карчме самога Цэзара. На Русі карчма, як тып грамадскага клуба, з цягам часу страціла сваё значэнне і была выціснута царскім кабаком. Менавіта ад яго, ад піцейнага дома, распаўсюдзіліся пагардлівыя адносіны і да карчмы. Відаць, таму не надта шмат і напісана было пра гэты бок грамадскага жыцця. З дарэвалюцыйных прац бадай што напісаная Іванам Пыр'евым «Гісторыя кабака ў Расіі» (Казань, 1916 г.) мае даследаванне і па беларускай карчме, якая захавала сваё грамадскае значэнне да пачатку нашага стагоддзя як месца народных сходаў і свят, вечарынак і вяселляў, што так адрознівала яе ад прыкрага піцейнага дома.

Гартаючы гістарычныя фаліянты і працы даследчыкаў, неўзабаве заўважаеш, што ў Мірскай карчме Уладзіслаў Сыракомля ўпершыню пачуў песню «Когда я на почте служил ямщиком», што ў Ашмянскай карчме Напалеон пакінуў свой капялюш.

Як пабудова карчма развівалася ў непарыўным адзінстве з народным жыллём. Звычайная хата з шынком і жылымі пакоямі шынкара, часта з боку шынка мелася падсень на слупах, каб у пагодны дзень ці вечар можна было, пачаставаўшыся медавухай, пасядзець на сонейку і паслухаць гусляра. Бадай, найбольш адметнай пабудовай карчэмнага двара была стайня, ці стадола, дзе стаялі коні і фурманкі гасцюючых вандроўнікаў. У невялічкіх корчмах стадола стаяла асобнай пабудовай. Але часцей стайню будавалі ў комплексе з карчмой, накшталт таго, як у сялянскай сядзібе спалучалі хату з хлявамі. Такая карчма мела назву заезда і ўвасабляла ўсе тыпы сялянскага двара. Цалкам крыты двор, у якім хлявы з пляцоўкай для дзённага адстою жывёлы (дзяннік) шчыльна прымыкалі да хаты і мелі агуль[illegible] страху, нагадвала каме[illegible] карчма ў Гірэвічах Валож[illegible]скага раёна. Круглы (вяночны) двор накшталт тых, што традыцыйна будавалі ў Паазер'і і Падняпроўі, нагадвала карчма ў Ашмянах. На Літве і Беларусі можна [illegible]чыць старыя сядзібы, у[illegible] да жылой пабудовы тыпу [illegible]та—сені—хата, упоперак да сяней, утвараючы Т-падобны план, прыбудаваны гаспадарчыя збудаванні.

Корчмы стаялі на ўездзе ў вёску, ля скрыжаванняў і паштовых станцый, будаваліся ў комплексе з вадзянымі млынамі і паромамі. У мястэчку магло быць некалькі корчмаў. Вядомы падарожнік сярэдзіны мінулага стагоддзя П. Шпілеўскі прыгадваў карчму са Смалявіч, якая займала цэлы квартал. Карчма часта стаяла і побач з царквой ці касцёлам. Багамольцы, што прыходзілі напярэдадні набажэнства здалёк, маглі адпачыць пад «дахам гасцінным». Увогуле карчма была прыкметным элементам вясковага сілуэта і наваколля.

У мінулым стагоддзі ў Оршы, на гары ля яўрэйскіх могілак, таксама стаяла карчма. Існуе паданне, што, будучы праездам у Оршы, у гэтай карчме быў на сустрэчы з мясцовымі купцамі цар Мікалай II. Але да пачатку нашага стагоддзя карчэмны промысел, відаць, прыйшоў у заняпад, бо ў 1905 годзе будынак набывае настаўнік музыкі, нехта Казакевіч, перавозіць яго на Першую Слабадскую вуліцу і прыстасоўвае пад жылы дом, аб чым сведчыць



**НА ЗДЫМКУ: ганак былой карчмы ў Оршы. XIX стагоддзе.**

**Фота аўтара.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# ВЕРНІСАЖ «НА ГАЛЕРЭІ»

Работы дзесяці маладых беларускіх жывапісцаў і графікаў упершыню выстаўлены ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

Спачатку была музыка. Надрыўны голас віяланчэлі сплятаўся з сумнымі гукамі раяля і ляцеў увысь, на галерэю, быццам клікаў нас у незвычайны свет фарбаў і рэчаў. Фарбаў не яркіх, але хвалюючых, рэчаў старых, але якія выклікаюць самыя жывыя асацыяцыі і ўспаміны.

Такім паўстаў перад гледачамі вернісаж «на галерэі», адкрыты ў Мастацкім музеі БССР. Велізарныя партрэты «Дзесяткі смелых», прымацаваныя да вяроўкі звычайнымі драўлянымі прышчэпкамі, сустракаюць ля ўваходу на галерэю. Аляксандр Ксяндзоў, Андрэй Задорын, Ігар Кашкурэвіч, Людміла Русава, Наталля Залозная, Ігар Цішын, Сяргей Малішэўскі, Раман Заслонаў, Аляксандр Тарановіч, Васіль Баранаў. Узрост — ад трыццаці чатырох і ніжэй. Дыяпазон захапленняў — ад рэалізму да сацарта. Спосаб самавыяўлення: жывапіс, графіка, асабляж, інсталяцыя....

Пісьменніка Івана Чыгрынава на вернісаж прывялі клопаты Фонду культуры, нязменным старшынёй якога з'яўляецца ён з дня яго заснавання.

— Я яшчэ памятаю выстаўкі маладых пад дзіравымі дахамі, —гаворыць Іван Гаўрылавіч. — Сённяшняя падзея азначае, што мы значна рушылі наперад, калі дзеці мастакоў, а яны тут таксама прадстаўлены, атрымалі права заявіць аб сабе і сваім светаадчуванні на поўны голас. І гэта нармальная з'ява нармальнай культуры.

Адзін з бацькоў, Арлен Кашкурэвіч, ацаніць выстаўку ў цэлым не ўзяўся, але рады яе паяўленню і такому буйству форм самавыяўлення. Упэўнены: прыйдуць да маладых і вопыт, і глыбіня — усяму свой час.

Усяму свой час, так думала і загадчык аддзела беларускага мастацтва Вольга Каваленка — хросная мама гэтай выстаўкі, якая прапанавала сабраць на галерэі музея, што прымала лепшыя творы з усяго свету, апошнія работы маладых і мала каму вядомых, як, між іншым, і вядомых мастакоў. Сабраць усё па той жа прычыне: будзе час знаёмства — прыйдзе час выбару. Альтэрнатывай іншым выстаўкам яе не лічыць, затое перакананa, што гэты эксперымент павінен ператварыцца ў традыцыю: дзесяць найбольш цікавых маладых мастакоў павінны атрымліваць права ўдзелу ў выстаўцы «на галерэі».

Зачыніўшы цяжкія дзверы музея, азірнулася на вялікі калектыўны партрэт ля ўваходу, на якім нават сур'ёзныя твары маладых мастакоў свецяцца шчырай радасцю. Давайце і мы разам з імі парадуемся таму, што адбылося!

**Л. ПЕРАСЫПКІНА.**

# ТРАДЫЦЫЯ НАРАДЗІЛАСЯ

— Гэта было вялікае свята харавой музыкі,—так ахарактарызаваў I Міжнародны фестываль-конкурс камерных хораў таварыстваў і саюз[illegible]ляпых народны артыст БССР, прафесар, старшыня журы гэт[illegible] фестывалю Міхаіл Дрынеўскі.

На працягу трох дзён з раніцы да вечара ў Палацы культуры і тэхнікі МАЗа харавыя калектывы з Балгарыі, Польшчы, Грузіі, Арменіі, Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Адэсы і Мінска паказвалі высокае прафесійнае майстэрства, выконваючы творы рускіх кампазітараў, народныя песні і духоўную музыку.

У першыя [illegible] дні спрэчку за званне лаўрэата фестывалю вялі прафесіянал[illegible] камерныя хоры, у апошні дзень—самадзейныя. Сярод прафесіянальных хораў лаўрэатамі прызнаны два калектывы—Балгарыі і Вільнюса.

Дыпломам другой ступені ўзнагароджаны Мінскі камерны хор Беларускага таварыства сляпых. Трэцяе месца занялі таксама два калектывы — Арменіі і Грузіі.

Вялікая група мастацкіх кіраўнікоў хораў узнагароджана дыпломамі.

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

---

ныя, чым Пастэрнака», а дзяржаўны і партыйны дзеяч М. Зімянін (у тыя гады галоўны рэдактар «Праўды») заявіў літаральнае: «Гэта псіхічна ненармальны чалавек, шызафрэнік».

Калі хор ганьбавальнікаў Салжаніцына ў 60—70-я гады быў ўсеагульным і толькі адзінкі смельчакоў асмельваліся абараніць пісьменніка (А. Твардоўскі, Г. Уладзімаў, Б. Мажаеў, Л. Чукоўская), то сёння, у 90-м, прызнаным на Радзіме Годам Салжаніцына, толькі адзінкі рызыкуюць выказваць крытычныя меркаванні ў яго адрас. І, на мой погляд, выклікаюць усялякую павагу сваёй шчырасцю і самастойнасцю думкі. Ды і іх крытыка, зразумела, іншага ўзроўню.

У апублікаваным уласным дзённіку празаік А. Злобін, характарызуючы «ГУЛаг», піша: «Салжаніцын здымае паверхневы слой, не абцяжарвае сябе (а хутчэй, не можа) забрацца ўнутр праблемы. Салжаніцын выкрывае «архіпелаг». Па «архіпелагу» яго вядуць азлабленне, здзек, арыштанцкая мудрасць і памяць, шчодрасць пяра, трагізм — усё, што хочаце, але толькі не думка, не імкненне да разумення». І далей: «Гэта даведнік, а не філасофія». Вядомага крытыка А. Марчанку насцярожваюць «нашы страсці па Салжаніцыну» і тое, што мы «даруем яму ўсё. І амаль дэманстрацыйная адмова ад умяшання ў тое, што з намі адбываецца, і вета на перадрук публіцыстычных выступленняў, хаця, што ж утойваць, менавіта прамога Слова чакала ад вермонцкага выгнанніка ўзбаламучаная Расія».

Так, вермонцкі выгнаннік, ці вермонцкі пустэльнік, як часцей называюць Салжаніцына, ужо больш за дзесяць гадоў бязвыезна жыве ў сваім невялікім маёнтку каля маленькага гарадка Кавендзіш на поўначы ЗША. Пазбаўлены ў лютым 1974 года савецкага грамадзянства і тут жа насільна на самалёце Масква — Кёльн вывезены з краіны, нацярпеўшыся ганенняў ад улад, паклёпу ад суайчыннікаў, неразумення заходніх журналістаў, Салжаніцын прыняў рашэнне забараніць друкаваць якія-небудзь свае творы без ведама аўтара ці яго даверанай асобы ў СССР — В. Барысава, супрацоўніка «Нового мира». На жаль, яго забароны парушаюцца вельмі часта.

Мода на Салжаніцына спакушае асобныя выданні і нават тэатры хапацца за яго як за выратавальную саломінку, скарыстоўваць яго імя не з ідэалагічных ці творчых імкненняў, а для «актуальнасці» ці горш таго — для папраўкі сваіх фінансавых і тыражных праблем.

І на сталічнай сцэне, і на перыферыйных падмостках бядуе шматпакутны Іван Дзянісавіч, і па «Архіпелагу» ставяцца спектаклі, і часопісы грашаць «самасційнымі» публікацыямі.

Але вернемся да Салжаніцына. 1963 год. Пасля «Івана Дзянісавіча», які прайшоў трыумфальна, «Новый мир» дае яшчэ два апавяданні: «Матронін двор» і «Выпадак на станцыі Крэчатаўка». «На публіцы» яны прайшлі менш прыкметна, але прафесійнае вока літаратара не магло не ўбачыць сапраўднага мастацкага таленту аўтара. Скупы на пахвалу В. Астаф'еў выказаў гэта канкрэтна: «Лічу, што вяршыняй рускай навелістыкі з'яўляецца, на мой погляд, «Матронін двор». І аддаючы даніну папярэднім «вяскоўцам» — Авечкіну, Абрамаву, Салаухіну,— дадае: «Уся наша вясковая проза выйшла з «Матронінага двара».

Тут, што называецца, ні ўбавіць, ні прыбавіць.

Здавалася б, поўная перамога! Аднак паціху пачынаюць згушчацца хмары. Вядомы разгром М. Хрушчовым выстаўкі мастакоў-авангардыстаў у Манежы быў расцэнены «ўладатрымальнікамі» як каманда да звароту сталінскіх традыцый у кіраўніцтве культурай. Хрушчоў «адкаціў більярдны шар сваёй уласнай галавы да лузы сталіністаў»,— скажа пазней пра гэты паварот сам Салжаніцын.

Пакуль жа ён узмоцнена працуе адразу над чатырма буйнымі рэчамі: пачаты галоўны раман Р—17 («Чырвонае кола»), «Ракавы корпус», пішацца «Архіпелаг» (які змясціў у сабе 227 споведзяў зэкаў), рыхтуецца да магчымага друку «Круг першы».

Але... Першы сігнал аб небяспецы — непрысуджэнне Ленінскай прэміі. Потым, праз год пасля падзення Хрушчова (восень 65-га),—арышт яго рукапісаў на кватэры сяброў. І пакацілася...

Першае абмеркаванне ў Саюзе пісьменнікаў (канец 66-га), тлумачальныя пісьмы Салжаніцына Брэжневу, IV з'езду пісьменнікаў, сакратарыяту СП СССР. І як вынік — другое абмеркаванне (чытай: збіванне, пакаранне) на сакратарыяце (верасень 67-га).

І пайшоў Салжаніцын у падполле. І працаваў, працаваў. У 68-м выйшаў на Захадзе «Круг першы», рыхтаваліся там жа іншыя творы.

Далей, з-за адсутнасці месца, тэлеграфна: 69-ты год—выключэнне расійскімі пісьменнікамі Салжаніцына з рэспубліканскага саюза, 70-ты год — Нобелеўская прэмія. Як растлумачыў усім часопіс «Коммунист Вооруженных Сил» (№ 2, 71 г.), «Нобелеўская прэмія ёсць каінава пячаць за здраду свайму народу». 71-шы год — вобыск і канфіскацыя рукапісаў на дачы і як адказ — публікацыя ў Парыжы ў 1973 годзе «Архіпелага ГУЛаг».

На думку бясстрашнага і паслядоўнага абаронцы Салжаніцына Л. Чукоўскай, гэты акт па невымернасці вынікаў можа быць супастаўлены толькі са смерцю Сталіна.

— У нашых газетах Салжаніцына аб'явілі здраднікам,— піша пісьменніца.— Ён на самай справе здрадзіў — не радзіме, зразумела, за якую ён сумленна змагаўся, і не народу, якому прыносіць гонар сваёй творчасцю і сваім жыццём, а Дзяржаўнаму Упраўленню Лагераў — ГУЛагу — давёў да агульнага ведама гісторыю гібелі мільёнаў...

Далейшае вядома: выклік на Лубянку, пазбаўленне савецкага грамадзянства, самалёт Масква — Кёльн...

— Пакідаю Расію я другі раз,— скажа пазней Салжаніцын.— Першы раз на франтавых машынах, з наступаючымі войскамі... А прыязджаў адзін: з Германіі і да самай Масквы з трыма гебістамі. І вось зноў з Масквы з імі ж, толькі ўжо з васьмю. Арышт наадварот.

Прайшло паўтара дзясятка гадоў... Ад нянавісці, пагарды, недаверу і страху цяжка і паступова Расія пераходзіць да ўсведамлення сваёй віны перад Салжаніцыным. Да пакаяння. Яна пачула яго заклік нават самыя буйныя грамадскія падзеі, аж да дзяржаўных, мераць катэгорыямі індывідуальнай этыкі, «нашымі душэўнымі ацэнкамі: высакародна, подла, смела, баязліва, крывадушна, лжыва, жорстка, вялікадушна, справядліва, несправядліва...»

«Менавіта голас Салжаніцына,— піша крытык А. Латыніна,— голас цвярозы, які прымірае, прапаноўвае задумацца над мірным выйсцем для краіны, над бясплённасцю ўсякай нацыянальнай нянавісці, над прадукцыйнасцю шляху павольных і цярплівых рэформ, можа адыграць дабратворную ролю ў нашым грамадстве, якое раздзіраецца сацыяльнымі і нацыянальнымі супярэчнасцямі».

**Валерыя ПРУТ.**

## ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ

# «ГОЛАС РАДЗІМЫ»

### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**ШТОТЫДНЁВІК «ГОЛАС РАДЗІМЫ»—АДЗІНАЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ ВЫДАННЕ, ЯКОЕ МАЕ ШЫРОКУЮ ЧЫТАЦКУЮ АЎДЫТОРЫЮ ЯК У МЕЖАХ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ, ТАК І Ў ШМАТЛІКІХ КРАІНАХ ПРАЖЫВАННЯ ЗАРУБЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ.**

Газета «Голас Радзімы»:

— дасць вам магчымасць з дапамогай сваіх інфармацыйных і аналітычных матэрыялаў аб культурным, палітычным і эканамічным жыцці Беларусі трымаць руку на пульсе часу;

— прапануе дасведчаны, аб'ектыўны і плюралістычны расказ аб цікавым мікрасвеце замежжа, які складаюць людзі, крэўныя нам па этнічнаму паходжанню, культуры і часта грамадзянству;

— будзе і надалей служыць мастом лучнасці для замежных беларусаў у іх дабрачынных высілках, накіраваных на дапамогу гістарычнай Радзіме ў ліквідаванні вынікаў катастрофы на ЧАЭС;

— па просьбе чытачоў вядзе пошукі блізкіх, родзічаў і знаёмых у розных краінах свету. Каб зрабіць гэтыя пошукі больш дзейснымі, у рубрыцы «Вас шукаюць і чакаюць сваякі», апроч аб'явы, друкуем фотаздымкі ці любыя іншыя дакументальныя сведчанні;

— як ніхто іншы, газета мае вялікую магчымасць па вашаму жаданню знайсці сябра за мяжою, дапамагчы ў наладжванні асабістых кантактаў.

Наш падпісны індэкс: 63854, цана на год (для Савецкага Саюза)—4 рублі 16 капеек.

### ШАНОЎНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

Новыя гаспадарчыя адносіны ў Савецкім Саюзе, пераход да рынкавай эканомікі дыктуюць нашай газеце, як і ўсім іншым, свае жорсткія варункі і карэкцыю дзейнасці. Як заўжды, мы разлічваем на вашу падтрымку, парады, добрае слова. Нам вельмі важна і неабходна вызначыць рэйцінг тыднёвіка сярод замежных суайчыннікаў. Дзеля гэтага просім адказаць на наступныя пытанні:

1. Імя, прозвішча, адрас.
2. З якога часу выпісваеце газету?
3. Ці падабаецца вам «Голас Радзімы»?
4. Ці мяркуеце працягваць падпіску ў 1991 годзе?

Рэдакцыя спадзяецца, што газета «Голас Радзімы» і ў 1991 годзе будзе чаканай госцяй у вашым доме.

# АРШАНСКАЯ КАРЧМА

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

дакумент з архіва Бюро тэхнічнай інвентарызацыі горада. Тыя ж дакументы паведамляюць, што ў 1930 годзе трэцюю частку дома набыла за 1 500 рублёў удава настаўніка, жыхарка Ніна Ратабыльская, 1900 года нараджэння, якая жыве там і зараз. Астатнія дзве трэці ўдава Казакевіча прадала ў 1932 годзе за 2 000 рублёў нейкім Паўлу Лучко і Андрэю Самасейку. Патрэба ў жыллі прыводзіла сюды і іншых людзей. Частка дома належала Барысу Когану (зараз тут пражывае яго дачка), які, дарэчы, паведаміў шмат цікавага з гісторыі былой карчмы. Можна меркаваць, што карчма занянала падчас яўрэйскіх пагромаў 1905 года. У час мінулай вайны карчма цудам захавалася, бо Пралетарская (былая Першая Слабадская) вуліца дашчэнту згарэла. І сёння ў доме можна бачыць на неаднаразова перабудаваных печках белую кафлю-«варшаўку». Барыс Аляксеевіч дадаў, што перад вайной печкі былі ўпрыгожаны меднымі медальёнамі з выявамі Пушкіна і іншых пісьменнікаў.

На жаль, амаль цалкам страчана ўнутраная планіроўка карчмы. У бюро тэхнічнай інвентарызацыі Оршы захавалася некалькі планаў дома, датаваных 1946, 1947, 1958, 1967, 1980 гадамі. Контуры капітальных сцен дазваляюць меркаваць, што знешнія рысы плана, відаць, змяніліся нязначна. Пытанне, ці была дабудавана стадола? Калі была, дык, відаць, з левага боку. У плане згадваюцца рэшткі бакавой прыбудовы, якая ідзе ў глыб двара, больш шырокі, прасторны ганак. Мабыць, тут была грамадская частка карчмы. Ганак правай палавіны больш цёплых памераў і вёў у жылую палавіну карчмара.

Асобна трэба спыніцца на разьбяным убранні карчмы. Звернуты да Пралетарскай вуліцы фасад ашаляваны. Па звесу страхі ва ўсю даўжыню ідзе разьбяны карніз, ніжэй — фрызавы пояс, утвораны кароткімі вертыкальнымі дошкамі з нашчыльнікамі і паяскамі з узорамі, зробленымі варатком, гародчатай разьбой, арнаментам з раслінным сюжэтам. Ствараючыя вертыкальны рытм вокны ўпрыгожаны адмыслова: прапільная, барэльефная, накладная разьба, зааморфныя матывы, сімвалы сонца і ўрадлівасці зямлі, знакі засцерагальнай магіі. Уражвае разьбяное ўбранне, кансольны вынас двухсхільнага навесу ганкаў, прыбудаваных да флангаў пабудовы. Такія ганкі былі характэрныя драўлянаму гарадскому жыллю Падняпроўя, распаўсюдзіліся ў нашым стагоддзі і ў вясковым будаўніцтве. Архітэктурна-планіровачныя, дэкаратыўна-пластычныя рысы былой карчмы раскрываюць арганічнасць развіцця гістарычных рыс дойлідства рэгіёна як драўлянага, так і каменнага. Варта ўспомніць драўляную Святадухаўскую царкву Куцеінскага кляштара ў Оршы XVII стагоддзя, драўляныя цэрквы пачатку XVIII стагоддзя з Смалян і Барані (перавезена ў Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту пад адкрытым небам). Што датычыцца разьбы, то варта ўспомніць магілёўскую Мікольскую царкву XVII стагоддзя і ўзоры каменнай разьбы ў яе ўбранні. Многія разьбяры з Оршы ў XVII стагоддзі працавалі ў Маскве ў Зброевай, Залатой, Срэбнай і іншых палатах царскага двара, гэта Андрэеў Восіп, Арсеній, Іпаліт, сталяр Фёдараў Андрэй. Ад іх цягнуцца карані майстэрства, якое сёння **яшчэ можна** ўбачыць на старой карчме. Чаму яшчэ? Справа ў тым, што старую карчму можа спасцігнуць лёс, які выпаў і многім іншым помнікам народнай архітэктуры. Кавалак былой Першай Слабадской вуліцы, які яшчэ застаўся, збіраецца зносіць мясцовы завод «Металіст». Да таго ж і нехта са «спецыялістаў» з Мінска, будучы тут праездам, кінуў, што наўрад ці ўяўляе будынак каштоўнасць. Мясцовым уладам гэтага аказалася дастаткова, каб вызначыць свае адносіны да помніка. Вось толькі Юрый Копцік, краязнаўца, журналіст, не пагадзіўся з такой абыякавасцю і, як кажуць, «забіў у званы». Зараз ёсць па карчме адпаведнае заключэнне, раённы аддзел культуры згодны, што будынак варта захаваць і адрэстаўрыраваць. Магчыма і яго перавозка ў рэспубліканскі музей пад адкрытым небам. Няхай стане аршанская карчма яшчэ адным прыпынкам на сцежках дзядоў, што ідуць з часоў мінулых, праз наш час у часы будучыя.

**Аляксандр ЛАКАТКО, кандыдат гістарычных навук.**



**Яўгеній Мацвееў, урач санаторыя «Наваельня», нават напісаў вершы пад уражаннем сваёй першай лясной знаходкі. Было гэта гадоў пятнаццаць назад. Прыехаў ён пагасцяваць да сястры ў Прыбалтыку. Печы там палілі старымі пнямі. Аднойчы прыгледзеўся да кораня: вылітая русалка сядзіць. Узяў нажоўку, тое-сёе падправіў... Так з'явілася «Русалка» — першая работа ў яго шматгадовым захапленні. Цяпер з кожнага водпуску Яўгеній Аляксеевіч вяртаецца з рукзаком, поўным знаходак. З кватэры многія работы Мацвеева перакачавалі ў музеі Дзятлава, Гродна, Калінінграда. А ён працягвае пошук, не перастаючы і сам здзіўляцца, і іншых здзіўляць фантазіяй прыроды.**

**НА ЗДЫМКУ: Яўгеній МАЦВЕЕЎ за работай.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца **Аляксандр ВАРЫХАНАЎ**, які нарадзіўся 3 красавіка 1927 года ў Баку. Вядома, што ён быў вывезены на работу ў Германію. Апошнія звесткі пра яго такія: пры капанні акопаў у лютым 1945 года моцна абмарозіў ногі. Здарылася гэта паблізу горада Шверын.

Яго шукае сястра Izabella WHEATLEY.

Усім, хто што-небудзь ведае пра яго далейшы лёс, просім пісаць у рэдакцыю ці на адрас:

IZABELLA WHEATLEY,
270 DUKINFIELD RD., HYDE,
CHESHIRE, SK 14-4 QE, UNITED KINGDOM.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

## НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1349